# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№ 8 (195)
жнівень 2018

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб’яднанне “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”


## У НУМАРЫ:

### Дар’я Жук: “Оскараўскі” фільм я прыдумала ў чарзе ў амерыканскую амбасаду

У мінскіх кінатэатрах пачаўся пракат фільма “Хрусталь” беларускай рэжысёркі з Нью-Ёрка Дар’і Жук. Упершыню за 20 гадоў Беларусь вырашыла вылучыць фільм на “Оскар” у катэгорыі “Найлепшы замежны фільм”.

**Працяг на старонцы 3.**

### У Нью-Ёрку прайшла Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі

1-2 верасня ў Беларускім цэнтры ў Нью-Ёрку адбылася 33-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі, якая была арганізаваная Беларуска-Амерыканскім Задзіночаннем (БАЗА). Сустрэча сабрала беларусаў з розных куткоў ЗША: Нью-Ёрку, Нью-Джэрсі, Філадэльфіі, Маямі, Бостана; таксама былі госці з Таронта (Канада).

**Працяг на старонцы 4.**

### Іркуцкія “Крывічы” ў гасцях у “Лепельскага Цмока”

Гутарка з сябрам Іркуцкага моладзевага клубу “Крывічы” Алегам Рудаковым.

**Працяг на старонцы 7.**




## НОВЫ ТОМ “СЯМЕЙНАЙ САГІ” СТАГАНОВІЧАЎ ВЫЙШАЎ У “БІБЛІЯТЭЦЫ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ”

У серыі “Бібліятэка Бацькаўшчыны” выйшла кніга ўспамінаў вядомай беларускай мастачкі Тамары Стагановіч-Кольбы, дачкі Аляксандра і Марыі Стагановічаў.

“Абрэзкі з мінулых гадоў” – менавіта так называецца гэты важкі (больш за 500 старонак) том, дбайна падрыхтаваны да друку вядомымі беларускімі навукоўцамі, даследчыкамі эміграцыі Наталляй Гардзіенка і Лявонам Юрэвічам. Кніга ўяўляе сабой завяршэнне своеасаблівай “сямейнай сагі” Стагановічаў, калі браць пад увагу кнігі, што выдаваліся раней – “Успаміны пасла” Аляксандра Стагановіча, які быў вядомым беларускім грамадскім і палітычным дзеячам, і кнігу яго жонкі Марыі “Мае ўспаміны”.

“Успаміны пасла” былі ў асноўным прысвечаныя апісанню грамадскіх падзеяў, якім Аляксандру Стагановічу давялося быць сведкам – а гэта і ўдзел у Беларускай сялянска-работніцкай грамадзе, і выбары ў польскі сейм, пасля арышты і шасцігадовае зняволенне, жыццё пад акупацый і затым актыўны ўдзел у справах беларускай эміграцыі, у тым ліку ў статусе намесніка прэзідэнта Рады БНР... Кніга яго жонкі Марыі “Мае ўспаміны” знаёміла чытачоў з іншымі аспектамі жыцця Стагановічаў – унутранымі справамі сям’і і сваяцкімі стасункамі. Акрамя гэтага нататкі Марыі Стагановіч утрымлівалі апісанні народных звычаяў, тэксты народных песняў і рэцэпты традыцыйнай беларускай кухні. На жаль, запісаныя ўспаміны Марыі Стагановіч скончаліся раней за з’яўленне дзяцей, вайну і эміграцыю. Затое цяпер пра ўсё гэта можна даведацца з кнігі “Абрэзкі з мінулых гадоў” яе дачкі Тамары.

Успаміны Тамары Стагановіч-Кольба ахопліваюць перыяд з яе дзяцінства ў 1930-я гады на Навагрудчыне да смерці мужа і падарожжа ў Ізраіль у 2012 годзе. Эмацыйны, гранічна шчыры, дэтальны і па-дзіцячы непасрэдны аповед пра вайну і ад’езд з бацькамі ў Нямеччыну, пра ўкраінскую гімназію ў лагеры для перамешчаных асобаў і вызваленне брата з канцлагера, пра побыт у ЗША і сваю няпростую гісторыю кахання, не пакіне абыякавым кожнага, хто возьме гэтую кнігу ў рукі. Важнае месца займае апісанне этапаў прафесійнага станаўлення мастачкі, удзел у выставах, у тым ліку і ўражанні ад наведвання з выставай Мінска ў 1994 годзе.

Успаміны багата каментаваныя рэдактаркай Наталляй Гардзіенка. Асаблівую ўвагу на сябе звяртае мова ўспамінаў. Украінская гімназія, скончаная Тамарай Стагановіч у Нямеччыне, украінскае паходжанне яе мужа Аляксандра і доўгае жыццё ў Злучаных Штатах Амерыкі наклалі адбітак як на лексіку і словаўтварэнне, гэтак і на сінтаксіс аповеду. Беларуская мова “Абрэзкаў з мінулых гадоў” пераліваецца нязвыклымі адценнямі і ў сукупнасці з іншымі вартасцямі кнігі дорыць сапраўднае свята для ўсіх аматараў мемуарнага жанру.

**Інфармацыйны аддзел МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”**



## ПАМЁР ХВЕДАР НЮНЬКА

15 жніўня памёр Хведар Нюнька, сябра Рады і адзін з заснавальнікаў ЗБС "Бацькаўшчына", вядомы беларускі грамадска-культурны дзеяч у Літве. Яму было 90 гадоў. Смерць сталася наступствам сур'ёзнай траўмы, атрыманай у верасні мінулага года.

Хведар Якубавіч стаяў ля вытокаў Таварыства беларускай культуры ў Літве, якое ўзначальваў дваццаць пяць гадоў, ад моманту заснавання, спрыяючы адраджэнню, захаванню і пашырэнню беларускай прысутнасці ў Літоўскай Рэспубліцы. Дзякуючы дзейнасці спадара Хведара ў Вільні сёння працуе беларуская гімназія, імёнамі славутых беларусаў названыя некаторыя вуліцы горада, на магілах беларускіх дзеячаў усталяваныя помнікі і дзясяткі мемарыяльных дошак, а таксама захаванае месца забойства Кастуся Каліноўскага на Лукішскім пляцы. Пад кіраўніцтвам Хведара Нюнькі Таварыствам беларускай культуры былі праведзеныя пяць Канферэнцый беларусаў Балтыі.

Хведар Нюнька ўражваў сваёй нястомнасцю, энергічнасцю і меў актыўную грамадзянскую пазіцыю, заўжды браў актыўны ўдзел у грамадкіх акцыях і кампаніях – выступаў у абарону беластоцкай газеты "Ніва", у падтрымку Дома Марыянаў у Лондане, дапамагаў усталёўваць крыжы ў Курапатах... Усяго не пералічыць.

З "Бацькаўшчынай" Хведар Якубавіч быў ад самага пачатку, і не пакідаў Згуртаванне без падтрымкі нават у самыя няспрыяльныя для арганізацыі перыяды. Ён быў верным сябрам і паплечнікам нашага Згуртавання. Смерць Хведара Нюнькі для нас – непапраўная страта.

ЗБС "Бацькаўшчына" выказвае спачуванні родным спадара Хведара, а таксама ўсім, хто яго ведаў. Мы шчыра смуткуем разам з вамі.

Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

**in memoriam**

# Радзім Гарэцкі: "ВЫДАТНЫ ВІЛЕНСКІ БЕЛАРУС, МОЙ СЯБАР ХВЕДАР НЮНЬКА"

Хведар Нюнька быў поўнасцю адданы Беларушчыне і зрабіў найбольш вялікі ўклад у захаванне, пашырэнне і прапаганду беларускасці ў Літве. Светлы, добразычлівы, з адкрытым сэрцам, гасцінны, усмешлівы, з прыгожым тварам і ясным позіркам шэрых вачэй, акуратнай сівой бародкай і вусікамі, заўсёды добра апрануты, невысокага росту, але падцягнуты, стромкі, ён адразу спадабаўся мне, калі мы разам займаліся стварэннем ЗБС "Бацькаўшчына".

Прыемна было бачыць яго такім энергічным, нястомным, заўжды поўным новых ідэй, цвёрдым у сваіх грамадзянскіх пазіцыях, гатовым адгукнуцца на падтрымку самых розных патрэбных спраў не толькі ў Літве, але і ў іншых краінах. Усё, што ён зрабіў, цяжка пералічыць, дастаткова нагадаць пра ўсталяванне больш як дзесяці шыльдаў беларускім дзеячам, шэраг помнікаў на могілках Росы, назвы вуліц, працу беларускай гімназіі, выданне шэрагу беларускіх кніг і інш. Хведар Нюнька прыватызаваў сядзібу Таварыства беларускай культуры, ля вытокаў якога стаяў і якое дваццаць пяць гадоў узначальваў. А пазней атрымаў пляцоўку (12 сотак) для Цэнтра культуры Якуба Коласа (тут раней быў дом сям'і жонкі паэта – Марыі Дзмітрыеўны).

Я асабліва ўдзячны яму за ўшанаванне памяці Максіма Гарэцкага і яго найлепшай вучаніцы з Першай віленскай беларускай гімназіі Наталлі Арсенневай – мой дзядзька дапамог ёй стаць выдатнейшай беларускай паэтэсай. Дзякуючы намаганням Хведара мемарыяльныя дошкі ў іх гонар усталяваныя побач з уваходам у былы будынак гімназіі.

Мне давялося ўдзельнічаць у пяці Канферэнцыях беларусаў Балтыі, якія ТБК правялі ў Вільні, а таксама ў іншых мерапрыемствах ТБК, таму я разам з маім сябрам, выдатным гісторыкам Анатолем Грыцкевічам, былі прынятыя ў ТБК як ганаровыя члены.

Хведар Нюнька карыстаўся вялікай павагай як у літоўцаў і ўладаў Літвы (важна, што дасканала ведаў літоўскую мову), так і ў шырокага кола ўсіх беларусаў. Ён – выдатны беларускі адраджэнец Літвы, спадкаемца многіх віленскіх адраджэнцаў мінулага стагоддзя. Для беларускай справы ён гатовы быў аддаць усё. Я ведаю, што каб утрымліваць сядзібу ТБК і добра праводзіць іншыя мерапрыемствы, ён укладаў свае асабістыя грошы, нават браў крэдыт і заклаў сваю кватэру. Калі я прыязджаў у Вільню, звычайна з маёй жонкай Галяй, мы спыняліся ў кватэры гасціннага Хведара, а ён, калі прыязджаў у Мінск – у нас. Часта мы сядзелі доўга за поўнач, бо не маглі скончыць размовы пра нашыя справы. У Хведара была вельмі добрая беларускамоўная сям'я – дачка, сын і ўнукі. Я ўспамінаю, што ў першыя мае прыезды ў Вільню Хведар Нюнька быў у вялікім смутку, бо яго жонка вельмі цяжка і доўга хварэла, і ўжо не магла сама ўставаць. Яе смерць стала для яго вялікай трагедыяй, бо між імі было сапраўднае моцнае каханне. Ён на ўсё далейшае жыццё застаўся верны ёй. У вялікім пакоі яго кватэры на сцяне вісеў яе партрэт, а на пісьмовым стале стаяў яе мармуровы бюст. Мы некалькі разоў разам з ім ездзілі на могілкі Росы, ускладалі кветкі да яе помніка.

У 2016–2017 гадах я яшчэ заспеў Хведара бадзёрым.

26-27 сакавіка 2016 года Хведар Нюнька, які ў той час быў старшынёй Культурнага цэнтра Якуба Коласа ў Вільні, запрасіў сваіх сяброў адзначыць свята 25 сакавіка – дзень абвяшчэння незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі. Той Дзень Волі мы вельмі ўрачыста і ўзнёсла адсвяткавалі ў Беларускім доме праваў чалавека імя Барыса Звозскава. Тады ж вырашылі стварыць Аргкамітэт па святкаванні 100-годдзя БНР.

15-16 ліпеня 2017 года ў Мінску ў Міжнародным адукацыйным цэнтры імя Ёханеса Рау прайшоў Сёмы з'езд беларусаў свету ЗБС "Бацькаўшчына" (галоўная тэма – "Беларуская нацыя, беларуская дзяржаўнасць, беларускае замежжа – выклікі сучаснасці і стратэгія развіцця"). Прыехаў на яго і Хведар Нюнька. Мы шмат гаварылі з ім пра нашы справы.

6 красавіка 2018 года я пазваніў Хведару, каб павіншаваць сябра з 90-годдзем, і даведаўся, што Хведар, на жаль, пасля перанесенай траўмы і аперацыі вельмі саслабнуў і кепска пачуваецца. Да яго прыехала Крысціна Аблажэй, каб даглядаць і дапамагаць яму. Яна ж мне і пацвердзіла, што святкаванне юбілею 14 красавіка ўсё ж адбудзецца, хоць юбіляр не быў ужо такім бадзёрым, як заўсёды. Шкадаваў, што вымушаны быў пасяліць нас не ў сваёй кватэры, як звычайна.

Павіншаваць юбіляра прыйшлі шмат гасцей з Вільні (у тым ліку і прадстаўнікі віленскіх уладаў). Многія прыехалі з Беларусі, Польшчы, Латвіі.




Сёмы з'езд беларусаў свету ў Міжнародным адукацыйным цэнтры імя Ёханеса Рау 16 ліпеня 2017 года. Злева направа: Леакадзія Мілаш, Радзім Гарэцкі, Хведар Нюнька, Уладзімір Колас

Працяг на старонцы 4.

# Дар'я Жук: "Оскараўскі" фільм я прыдумала ў чарзе ў амерыканскую амбасаду

У мінскіх кінатэатрах пачаўся пракат фільма "Хрусталь" беларускай рэжысёркі з Нью-Ёрка Дар'і Жук. Упершыню за 20 гадоў Беларусь вырашыла вылучыць фільм на "Оскар" у катэгорыі "Найлепшы замежны фільм".

Ходзяць чуткі, што нават "оскараўскі камітэт" стварауся Мінкультам і "Беларусьфільмам" менавіта пад "Хрусталь". Ці так гэта, "Еўрарадыё" запыталася ў самой рэжысёркі. А яшчэ Дар'я распавяла, як стварауся фільм, пра што ён і як гэта – калі тваё тварэнне ацэньваюць гледачы і крытыкі прэстыжных кінафорумаў.

Дар'я Жук нарадзілася ў Мінску. Скончыла Гарвардскі і Калумбійскі ўніверсітэты, працавала на тэлеканале HBO, зняла некалькі кароткаметражных фільмаў. "Хрусталь" – яе першы досвед у поўнаметражным кіно. Сусветная прэм'ера фільма прайшла на кінафестывалі ў Карлавых Варах. Стужка была паказана на фестывалях у Нью-Ёрку, Котбусе, Таліне, Адэсе. У Таліне і Адэсе атрымала ўзнагароды.

Сюжэт фільма разгортваецца ў 90-я ў Мінску: дзяўчына-дыджэй марыць з'ехаць у Амерыку, але робіць памылку ў дакументах на візу. У фільме паказаныя рэйвы 90-х, стыхійныя рынкі і мара моладзі пра эміграцыю.

### Аднойчы я доўга стаяла па візу ў чарзе ў амерыканскую амбасаду

Аднойчы я доўга стаяла па візу ў чарзе ў амерыканскую амбасаду ў Мінску і зразумела, што гэта чарга была б добрай сцэнай у кіно. Людзі, якія стаялі са мной побач, перажывалі, агалялі душу, гатовыя былі расказаць усё сваё жыццё. Гэтая тэма ў мяне засталася ў свядомасці. А потым, 10 гадоў таму, адбылася зусім кур'ёзная гісторыя з адной маёй сяброўкай: яна падала ліпавыя дакументы ў амбасаду і трапіла ў калатнечу, якая і стала завязкай сюжэту ў "Хрусталі". Працаваць над сюжэтам са сцэнарысткай Хельгай Ландаўэр мы пачалі толькі праз некалькі гадоў.

### Фільм пра асабістую свабоду

Для мяне гэта фільм пра асабістую свабоду і пра немагчымасць асабістай свабоды – калі людзі побач з табой таксама несвабодныя ўнутры. Наогул гэта шматузроўневы фільм.

### "Мне патэлефанавалі з Лос-Анжэлеса і сказалі: "Так! Так, гэта добра!"

Не думала, што людзі зацікавяцца маім кіно. Мабыць, трэба было дачакацца моманту, калі 90-я стануць зноў актуальнымі, прачнецца цікавасць да рэйв-субкультуры. Таму праца над сцэнаром адбывалася доўга, наскокамі. То адкладалі, то браліся за яго зноў. У выніку сцэнар пісаўся пяць гадоў. А потым, два з паловай гады таму, мне патэлефанавалі з Лос-Анжэлеса і сказалі: "Так! Так, гэта добра! Мы дамо 10% фінансавання на гэты фільм, а астатняе ты сама знойдзеш". Але гэта першае "так", калі ты раптам чуеш, што нехта зразумеў тое, што ты спрабуеш сказаць, напэўна, самае галоўнае.


Ігар Чышчэня

Дар'я Жук падчас здымак фільма "Хрусталь".

### Нам трэба тэрмінова выйсці замуж і потым тэрмінова развесціся

Першы раз я прыехала ў Мінск здымаць фільм, але не ўдалося запусціцца, таму што не было грошай. Адчувала, што эмацыйна гатовая, але вытворчыя рэчы складваліся не да канца. Гэта залежала ад фінансавання. Нехта прыходзіў, нехта сыходзіў у плане абяцання грошай на кіно. Гэта быў верасень 2016-га. Але да студзеня я стала разумець, што здымкі непазбежныя і што гэта павінна адбыцца альбо зараз, альбо ніколі... Змешаныя пачуцці. Ты ж вельмі рызыкуеш. На самай справе гэта велізарны страх і пераадоленне сябе. Тым больш ты робіш гэта ўпершыню. Так, я зняла шмат кароткаметражных работ, але стварыць такога аб'ёму працу і адначасова працаваць з людзьмі, якіх ты раней не ведаў, было няпроста. Як сказала мой аператар, нам трэба тэрмінова выйсці замуж і потым тэрмінова развесціся. Таму што ты праводзіш дзень і ноч з новай кінасям'ёй, і табе трэба наладзіць тэлепатычныя сувязі, каб цябе разумелі.

Здымкі праходзілі ў Мінску ў сакавіку 2017-га года на працягу 22 дзён. У Нямеччыне рабілі гук, у Расіі – частку спецэфектаў. Доўгі час я правяла ў Маскве ў пошуку галоўнай гераіні. На жаль, моладзь з'язджае туды вучыцца, і многія беларусы ўжо там – я з імі пазнаёмілася. Галоўную гераіню, Вулю Сароку, сыграла Аліна Насібуліна... Я працавала над фільмам да самай прэм'еры. Вельмі складана дарабіць кіно, калі ў цябе няма дэдлайну.

### Прадзюсар Валерый Дзмітрычэнка – гэта падарунак

Мы пазнаёміліся, калі ў мяне быў гатовы сцэнар. Гэта значыць, нехта на нябёсах нас склаў у адну калоду карт. У яго велізарны досвед, ён добра ведае 90-я, таму што ў той час быў адным з першых маладых прадзюсараў, якія прыйшлі на "Беларусьфільм" і якія распачалі працаваць у незалежным кіно. Валера кожны вечар мне тэлефанаваў і пытаўся: "Ну як?". Добры прадзюсар – гэта той, які думае на тры крокі наперад. Важна размаўляць з прадзюсарам не тады, калі ў цябе ўзнікае нейкая праблема, а загадзя. Ты абмяркоўваеш свае страхі, надзеі, думкі.

### Нас запрасілі ў Карлавы Вары, а мне хацелася большага

Нас запрасілі ў Карлавы Вары, а мне хацелася большага. Але ў выніку я была так рада, што гэта Карлавы Вары, а не Берлін. А то ў мяне быў бы разрыў сэрца, калі б гэта было нешта большае. Аказваецца, гэта такі стрэс – першы раз паказваць свой фільм гледачам... Я ўсё спрабую да гэтага прывыкнуць, але, напэўна, гэта прыходзіць з гадамі. Мне проста хацелася перастаць быць рэжысёрам. Момант да паказу невыносны, гэта абсалютна жудаснае хваляванне. Я думала: "Чаму, чаму мы гэта з сабой робім? Навошта такая пакута?" Але ўсё добра прайшло. Гледачы былі цудоўныя, пра фільм размаўлялі ўвесь фестываль. Мясцовая фестывальная газета, як потым мне прызналася адна журналістка, спецыяльна старалася паменш пісаць пра мой фільм, паколькі ўсе толькі пра яго і размаўлялі. Мауляў, каб не думалі, што хтосьці праплаціў хайп вакол карціны.

У Адэсе ўсё было менш хвалююча, але больш радасна. Ты ведаеш, што людзі будуць глядзець фільм на рускай мове, а не чытаць субтытры, таму ім прасцей будзе яго ўспрымаць. Гэта было сапраўды так. У Адэсе зусім геніяльныя гледачы, якія размаўляюць з кінапалатном, яны гэта нават рабілі ўголас. Апладысменты былі падчас паказу. Калі ў Карлавых Варах я выседзела паказ, то ў Адэсе мяне хапіла на паўфільма.

### Я не арганізоўвала оскараўскі камітэт і не хадзіла на "Беларусьфільм"

Я ведаю, што Ігар Паршнёў у нейкім інтэрв'ю казаў, што я прынесла дакументы на "Беларусьфільм". Не. Мая амерыканская прадзюсарка пасля здымак летась сказала: "У цябе добры фільм, можна спрабаваць падацца на "Оскар", фільм чакаюць добрыя фестывалі". Гэты момант яна абмеркавала з маім беларускім прадзюсарам Валерам Дзмітрычэнкам. Мауляў, карціна можа быць прыстойным канкурэнтам прыстойным фільмам з іншых краін. І вось у Беларусі ўзгадалі, што, напэўна, зноў можна арганізаваць камітэт, які быў, але паступова памёр, таму што ён не быў функцыянальным. Дакументамі займаліся прадзюсары. Наогул усе гэтыя дакументы вісяць у інтэрнэце. Іх не трэба нікуды прывозіць і нікуды аддаваць. Гэта грамадская інфармацыя, якая была заўсёды і ўсім даступная... Наогул, гэта балючая тэма, і я не вельмі разумею, як правільна адказваць. Я не арганізоўвала камітэт і не хадзіла на "Беларусьфільм". Я займалася кіно і старалася яго зрабіць добрым.

Так, "Беларусьфільм" крыху дапамог грашыма – на кінастудыі ў нас быў офіс, мы выкарыстоўвалі натурпляцоўку "Беларусьфільма". Гэта былі драбкі, хоць я ўсё роўна за гэта вельмі ўдзячная. Але ў арганізацыі траплення свайго фільма ў намінанты на "Оскар" я не ўдзельнічала.

### У нас ёсць фільмы, якія можна вылучаць на "Оскар" сёлета?

Так, мой прадзюсар знаходзіцца ў "оскараўскім камітэце". І так, мой фільм збіраюцца падаваць на "Оскар". Але якія фільмы ў нас ёсць, якія можна вылучыць на "Оскар" сёлета? Да таго ж, я не ўпэўненая, што мая праца абавязкова ўвойдзе ў спіс намінантаў у катэгорыі "Найлепшы замежны фільм".

**Анастасія Бойка, Маша Калеснікава,**
**euroradio.fm**

**in memoriam**

# Радзім Гарэцкі: “Выдатны віленскі беларус, мой сябар Хведар Нюнька”

Працяг са старонкі 2.

Кіравала ўрачыстасцю дачка Хведара Ніна – вельмі ўдала, па-майстэрску. Было шмат добрых віншаванняў і падарункаў, прамоўцы адзначалі шматлікія дасягненні Нюнькі і выказвалі за іх удзячнасць. Хведар стараўся быць бадзёрым, як і раней добра браў чарку, але выглядаў стомленым, у вачах быў сум. Я ўбачыў, што ён і праўда моцна здаў, і мне тады здалося, што гэта – развітанне.

Мы з сумам абняліся, развіталіся, пажадалі адзін адному трымацца і быць здаравейшымі.

Ад пачатку траўня я некалькі разоў званіў Хведару Нюньку, але нехта падыходзіў да тэлефона і тут жа адключаў яго. Я вырашыў, што Хведар не хоча, каб яго турбавалі. Ніхто дакладна не ведаў, у чым тут справа. А ў сярэдзіне жніўня мне патэлефанавала Алена Макоўская з “Бацькаўшчыны” і перадала ад дачкі Хведара Ніны сумную навіну: неўзабаве пасля юбілею яе тата выйшаў з хаты, яму стала кепска і ён зноў паваліўся ды пабіў галаву. 15 жніўня яго не стала.

Беларускае грамадства панесла вялікую страту. Але імя вялікага беларускага адраджэнца назаўжды застанецца ў гісторыі Беларусі. Няхай пухам яму будзе Віленская наша зямля. А для нас Вільня без Хведара Нюнькі – ужо зусім іншая Вільня.

**Радзім Гарэцкі**



Радзім Гарэцкі з Хведарам Нюнькам на адкрыцці мемарыяльных дошак Максіму Гарэцкаму і Наталлі Арсенневай ля ўвахода ў будынак Віленскай беларускай гімназіі. Аўтар – Алесь Шатэрнік. Вільня, кастрычнік 2007 г.

**навіны**

# У Нью-Ёрку прайшла Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі

1-2 верасня ў Беларускім цэнтры ў Нью-Ёрку адбылася 33-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі, якая была арганізаваная Беларуска-Амерыканскім Задзіночаннем (БАЗА). Сустрэча сабрала беларусаў з розных куткоў ЗША: Нью-Ёрку, Нью-Джэрсі, Філадэльфіі, Маямі, Бостана; таксама былі госці з Таронта (Канада).




Віктар Дудараў

Гэтая Сустрэча была прымеркавана да стагоддзя БНР, і прайшла пад тэмай “Рада БНР і беларуская эміграцыя ў Паўночнай Амерыцы – гісторыя, сучаснасць і перспектывы”. Ганаровымі гасцямі сустрэчы былі Івонка Сурвіла, старшыня Рады БНР, і іншыя сябры Рады БНР, якія распавядалі пра дзейнасць Рады. Сярод ганаровых гасцей былі і госці з Беларусі: журналіст, тэлевядоўца і грамадскі дзеяч Глеб Лабадзенка, а таксама гісторык, кандыдат гістарычных навук і даследчыца беларускай эміграцыі Наталля Гардзіенка, якая прадстаўляла на Сустрэчы Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”.

У першы дзень, на адкрыцці Сустрэчы, госці праслухалі прывітанні ад кіраўнікоў арганізацый-удзельніц Сустрэчы. З прывітальным словам выступіла старшыня Галоўнай управы БАЗА Натальля Федарэнка. Старшыня Згуртавання Беларусаў Канады (ЗБК) Алена Лявончанка не змагла прысутнічаць асабіста, але даслала прывітанне ўдзельнікам Сустрэчы.

У першы дзень з прамовай выступаў Глеб Лабадзенка, які распавёў пра грамадска-культурную сітуацыю ў Беларусі, распавёў пра свой шлях да беларушчыны, а таксама падзяліўся ідэямі, як кожны беларус, нават той, хто жыве за мяжой, можа браць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці Бацькаўшчыны.

Першы дзень Сустрэчы быў завершаны канцэртам ад сямейнага гурта Валянціны Пархоменка-Казак, Алеся Казака і Вольгі Казак-Анлар. Валянціна разам з мужам Алесем і дачкой Вольгай расчулілі прысутных сваім шчырым выкананнем народных песень і твораў свайго аўтарства.

Другі дзень Сустрэчы пачаўся з багаслужбы ў саборы Св. Кірылы Тураўскага Беларускай Аўтакефальнай Царквы ў Нью-Ёрку і малебну за Беларусь. Афіцыйную частку праграмы другога дня адкрылі актывісты Бруклінскага аддзела БАЗА, якія паказалі пастаноўку “Як гэта было” пра Першы Усебеларускі З’езд 1918 года (па матывах твору Алеся Пашкевіча “Пляц волі”). У ролях Алеся Гаруна і Алеся Бусла выступілі браты Сяргей і Уладзімір Кудзелічы.

Асноўнай часткай другога дня Сустрэчы было пленарнае пасяджанне, на якім выступалі ганаровыя госці з прамовамі і дакладамі. Сп-ня Івонка Сурвіла распавяла пра свой шлях да БНР і разам з БНР, а таксама распавяла пра дзейнасць Рады ў Канадзе. Сп-ня Наталля Гардзіенка выступіла з прэзентацыяй пра дзейнасць прадстаўнікоў Рады БНР у ЗША. Сп. Зянон Пазняк выступіў з рэфератам пра ролю БНР у гісторыі Беларусі. Пасля выступаў адбылася дыскусія па тэме і была прынятая Рэзалюцыя Сустрэчы.

Акрамя абмеркавання асноўнай тэмы сустрэчы беларусы актыўна знаёміліся, абмяркоўвалі пытанні штодзённага жыцця і культуры як у замежжы, так і на Бацькаўшчыне.

Святочная праграма была завершаная канцэртам Таццяны Грыневіч-Матафонавай, якая падарыла прысутным улюбёныя беларускія песні і рамансы ў сваім выкананні, а таксама прэзентавала новую кружэлку, прысвечаную беларускім народным танцам.

**Паводле Наталлі Федарэнка, “Наша Ніва”**



навіны

# XIX ТРЫЯЛОГ У КРЫНКАХ: BELARUSIAN OUTSIDE

Беларусы і Беларусь па-за межамі. Так можна акрэсліць тэму дыскусій у межах сёлетняга "Трыялогу", які прайшоў у Крынках 31 жніўня і 1 верасня на тэму "Belarusian Outside".

Традыцыйна "Трыялог" адкрыла мастацкая выстава ў галерэі "Крынкі". Сёлета яна называецца "Pra_Bel", і паказвае працы мастакоў, якія цяпер жывуць і працуюць па-за межамі Беларусі.

"Часамі мы гаворым, што яны з'ехалі і ўжо нібы не беларусы, а гэта вялікая памылка. Мне здаецца, што вельмі важна інтэграваць альбо ведаць культурны кантэкст людзей, і развіваць гэтую тэму пашыранай Беларусі. Што мы маем сваіх агентаў за мяжой, якія атрымалі добрую адукацыю ў найлепшых школах Еўропы і Амерыкі. Нам ёсць, што паказаць, нам ёсць, аб чым казаць," – кажа куратар выставы, мастак Андрэй Дурэйка.

Журналіст і перакладчык Ян Максімюк першы раз удзельнічаў у "Трыялогу", калі мерапрыемства арганізоўваў яшчэ Сакрат Яновіч. Тэма "Трыялогу", на ягоную думку, выклікае дзве асацыяцыі: "Я outside-беларус, я чалавек, які ніколі не жыў у Беларусі. Раней жыў у Польшчы, дваццаць гадоў жыву ў Чэхіі. То бок я ўжо крышку гляджу на Беларусь outside: ці на Беларусь тую, што называецца Рэспублікай Беларусь, ці на сваю ўнутраную Беларусь, якая называецца Падляшшам. Так што гэта першая асацыяцыя – асабістая. Ну, а другая асацыяцыя, што тут, на гэтых Трыялогах наогул прапанавалася: такі погляд з боку".

Кіраўніцы Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Алене Макоўскай падабаецца тэма сёлетняга "Трыялогу" сваёй шматзначнасцю: "Belarusian Outside – гэта тыя беларусы, што жывуць па-за межамі Беларусі, ці сама Беларусь ужо сёння як бы outside для сваёй дыяспары і тых нейкіх прагрэсіўных тэндэнцый, якія адбываюцца ў свеце. Я якраз хацела паразважаць на гэтую тэму ў час дыскусіі, бо яна вельмі сугучная таму, што гучала падчас апошняга З'езда беларусаў свету, пра што мы казалі і на што мы звярталі ўвагу дзяржаўных устаноў Беларусі. А менавіта на тое, што трэба наладзіць больш інтэнсіўную працу, актывізаваць працу з беларускім замежжам".

"Медыі робяць нават больш за свае магчымасці. Мы ўсе ў Беларусі працуем з вялікай доляй энтузіязму, – кажа беларускі журналіст і літаратар Сяргей Дубавец. Ён звяртае ўвагу, што ў нашай краіне ёсць такі феномен, як дзяржаўныя медыі, якія займаюцца не столькі журналістыкай, колькі ідэалогіяй. – Уласна прафесійная журналістыка – гэта ўсё недзяржаўнае. Яно існуе з вялікай доляй энтузіязму, яно ўвесь час пад прэсінгам. Тыя ж белсатаўскія журналісты, як мы ведаем, сотні штрафаў атрымліваюць. Іх хапае міліцыя, а яны ўсё адно здымаюць. Гэта матывуецца не толькі і не столькі іх заробкамі, колькі місіяй. У Беларусі ўсе недзяржаўныя журналісты матываваныя сваёй місіяй".

"У Беларусі мала такіх дыскусій і сустрэч, дзе ў свабоднай атмасферы людзі могуць абмеркаваць важныя для дзяржавы і для нацыі пытанні, – падводзіць вынікі журналіст тэлеканала "Белсат" Павел Мажэйка, удзельнік панэлі на тэму "Медыя". – "Белсат" і "Радыё Рацыя", а таксама іншыя медыі, якія працуюць з-за мяжы для Беларусі, абсалютна выконваюць сваю задачу, нягледзячы на гэтыя тысячныя штрафы, перасьледы, арышты і крымінальныя працэсы. Справу мы выконваем, і нельга казаць, што мы па-за Беларуссю, па-за працэсам. Адзінае, што ў гэтай сітуацыі я б асабіста хацеў ад беларускай улады ці тых людзей, якія трымаюць сёння ўладу ў Беларусі, – хаця б не перашкаджаць".

Старшыня фонду Villa Sokrates, арганізатар "Трыялогу", выбітны мастак Лявон Тарасэвіч на пытанне, ці важным ёсць месца нараджэння чалавека, адказаў наступным чынам: "Для людзей, якія жывуць у індустрыяльным грамадстве, у розных месцах, не мае значэння, дзе яны знаходзяцца. Яны працуюць там, дзе могуць спаўняць свае мары. Яны не абцяжараныя сумам па месцы нараджэння. Але ж для мастака гэта фундаменты творчасці, калі камусьці гэта абыякава, то ён можа пашкадаваць".

Беларускі эсэіст, філосаф, тэарэтык літаратуры Валянцін Акудовіч упершыню ўзяў удзел у гэтым мерапрыемстве. Ён лічыць, што абыякавым стаўленнем да дыяспары і беларускай нацменшасці дзяржава губляе вельмі шмат: "Тое, што яна амаль наўмысна адсякае сябе ад шматлікіх дыяспар, і найперш Падляшша, – гэта канцэптуальная памылка. Падтрымаць антыасіміляцыю нашых беластоцкіх беларусаў – гэта надзвычай важна. Нават асіміляваныя яны і іх дзеці ўсё роўна яшчэ доўга будуць адчуваць сябе беларусамі. І нейкім чынам гэта адгукалася б у свеце, скажам, шмат хто стаў бы знакамітым, вялікім, ён бы казаў, што ён беларус".

XIX "Трыялог" у Крынках завяршыўся канцэртам з удзелам беларуска-расійскай выканаўцы Галіны Чыкіз, якая цяпер жыве ў Нямеччыне, а таксама беларускага трыа Port Mone.

Па выніках "Трыялогу" у Крынках традыцыйна пабачыць свет выданне Annus Albaruthenicus, якое прэзентуе і падсумуе вынікі сёлетніх дыскусій.

**Яна Запольская, "Беларускае Радыё Рацыя"**

# ЯК ЗАХАВАЦЬ САКОЛЬСКУЮ ГАВОРКУ?

Між іншым, аб гэтым размаўлялі ў час мовазнаўчай канферэнцыі, якая прайшла ў Саколцы. Удзельнічалі ў ёй мовазнаўцы з Польшчы і Беларусі.

"Сама канферэнцыя – гэта частка таго, што варта зрабіць дзеля захавання беларускай гаворкі Сакольшчыны, – адзначыў віцэстараста Сакольскага павета і дырэктар пачатковай школы ў Дуброве Беластоцкай, Юры Беламызы. – Паказваць людзям, што яна ёсць, што яна наша. Перш за ўсё, каб павялічыць свядомасць людзей у гэтым пытанні, што гэта не сорамна, што гэта наша ўласнае і пра гэта трэба дбаць. І паказваць таксама маладым людзям, што на гэтай мове напісана ўся нашая гісторыя, спадчына нашых дзядоў і прадзедаў, нашых продкаў".

Юры Беламызы працуе над публікацыяй на тэму сакольскай гаворкі жыхароў гміны Дуброва Беластоцкая. Кніжка мае з'явіцца да канца гэтага года.

**Уля Шубзда, "Беларускае Радыё Рацыя"**



**кніга**

# ПАЭТ, ЯКІ ПЕРАЙМЕНАВАЎ "МЕНСК" У "МІНСК"

Як правіла, аб беларускія выданні "пісьменнікаў мінулых гадоў" можа добра ўвэдзгаць пальцы – столькі льюць бронзы на квадратны сантыметр выдавецкай плошчы, што яна міжволі застаецца на эпітэліі пасля прачытання. А то і ў горле дырынчыць, аж хочацца адкашляцца. Новая кніжка Лявона Юрэвіча "Масей Сяднёў: pro et contra" – акурат спроба кашлянуць і падумаць, што з міфаў пра Сяднёва можна са спакойным сумленнем адпрэчыць.

Колькасць нашай бронзы, безумоўна, выкліканая адвечным негалоўным відам спорту – сацыяльным канструяваннем рэальнасці, якое, пры наяўнасці адсутнасці нейкіх істотных змен у наваколлі, замяняе магчымасць ускараскацца на вяршыню п'едэстала. Вакол прадстаўнікоў эміграцыі бронзы заўжды было асабліва шмат, што звязана з адчуваннем пэўнай калектыўнай віны за дзесяцігоддзі замоўчвання іх наробку ў савецкі час. Нейкі флёр ад таго некрытычнага прымання застаецца і дагэтуль – тады, калі ў тых жа "Запісах БІНІМ" апублікаваныя, без перабольшвання, тысячы самых розных, у тым ліку вельмі кантраверсійных, дакументаў, датычных шмат каго з эміграцыі. Дзясятак гадоў чытаючы вышэйзгаданы часопіс, я не раз сустракаў недвухсэнсоўна адмоўнае стаўленне да аднаго з найвядомейшых літаратараў замежжа – Масея Сяднёва. Цяпер гэтыя ацэнкі, згадкі, водгукі і палемічныя выказванні фактычна цалкам увайшлі ў кнігу Лявона Юрэвіча і высвечваюць асобу Сяднёва як прафесіянала ў галіне мастацкага тролінгу і дэканструкцыі.

Не памятаю, ці выходзіла на Беларускай службе Радыё Свабода публікацыя "невядомых фактаў" пра Масея Сяднёва, былога дырэктара РС, але калі такая з'явіцца, то адным з найбольш відавочных фактаў будзе той, што амаль усе супрацоўнікі Беларускай службы хацелі зрабіць свайму кіраўніку "цёмную".

Сяднёў улазіў ва ўсе тэксты з глыбокім рэдагаваннем, перайменаваў на радыё Менск у Мінск; заклікаў менш негатыўна ставіцца да савецкага ладу; захапляўся супрацоўнікамі Рускай службы Свабоды і схільны быў лепш прыцягваць да працы іх, чым кагосьці з беларусаў; перапісваў гатовыя тэксты ад заслужаных журналістаў; рэгулярна заварочваў гатовыя тэксты (пры іх немалым дэфіцыце). "Свінствы Сяднёва", паводле вызначэння Янкі Запрудніка, выклікалі ў супрацоўнікаў трывалы неўроз, які можна лёгка адсачыць праз мюнхенска-амерыканскую перапіску.

Знаходзячыся ў Амерыцы, Сяднёў лірычным вершам "Вызваленне" ўнёс пэўную бадзёрасць у літаратурныя колы радкамі пра "юнкерсы" і "месершміты":

*Маліўся сіле агнявой*<br>
*і дню, што лёс мой перайначыў.*<br>
*Я самалёту кожнаму над галавой*<br>
*жадаў найлепшае ўдачы.*<br>
*Як звязаныя ніцямі душы,*<br>
*і ў лёце не гублялі яны згоды.*<br>
*І крылле іх у сонечнай вышы*<br>
*гарэла водблескам мае свабоды.*

Але гэтым эпатажнасць яго не скончылася. Неўзабаве ён напісаў рэзанансны тэкст пра тое, што ў прынцыпе ўся беларуская літаратура, улучна з класікамі Коласам-Купалам, дастаткова другарадная ў сусветным маштабе з'ява, правінцыйная і непараўнальная з рускай культурай. Літаратурную су-



польнасць беларускай эміграцыі артыкул Сяднёва прывёў у стан шоку. Што да іншых ацэнак, то можна даведацца, напрыклад пра аповесць Максіма Гарэцкага "Дзве душы" як "рэч слабую, блізу нечытэльную" (ліст да Янкі Запрудніка ад 17.07.1974). Вершы Алеся Салаўя, паводле яго, – "дзіцячыя, вучнёўскія, гімназіяльныя, не становяць сабой блізу ніякай вартасці ні з гледзішча мастацкага, ні з гледзішча ідэйнага" (с. 52) і "за іх прост-такі сорамна перад нашым слухачом" (с. 55). "Каліноўскі – гэта польская гісторыя. У яго не было ніякай беларускай праграмы". "Касцюшка. Ну пашто мы робім з яго нейкага беларускага героя? Як і Каліноўскі, Касцюшка змагаўся за Польшчу, а не за Беларусь". "Не трэба ствараць ілюзіі беларускай дзяржаўнасці ў мінулым, ілюзіі, што мы яе мелі, знаходзячыся ў складзе Вялікага Княства Літоўскага. Гэта не так". "Караткевіч – добры пісьменнік, але – зноў жа – у сваіх гістарычных творах ідэалізуе не нашу, а, па сутнасці, чужую гісторыю – дзеі шляхты, гэта значыць, палякаў. У гістарычных творах Караткевіча мы не бачым уласна беларусаў" (с. 132–134).

Дажыўшы да незалежнасці Беларусі, Сяднёў прыязджае ў Мінск і, ужо пры Лукашэнку, выступае з дакладам на канферэнцыі, дзе даводзіць, што малітву "Ойча наш" увогуле не трэба перакладаць на беларускую мову, трэба пакінуць яе ў арыгінале – то бок па царкоўна-славянску. Бо ў іншым выпадку "губляецца дух самой малітвы, тут парушаны рытм, строй арыгінальнай царкоўнаславянскай мовы, плаўнасць яе і паэтычнасць".

Цытаты можна доўжыць далей, але і без гэтага відавочна: новая кніга Юрэвіча падкладае неслабую бомбу ў падваліны беларускай літаратуры. І тое, што бомба не ўзарвалася дагэтуль, можа тлумачыцца толькі няспраўным заводным механізмам. Вось жа, наладжваем яго і чакаем гуку раскручанага вентылятара.

**Ціхан Чарнякевіч, "Будзьма беларусамі!"**




Масей Сяднёў: pro et contra / уклад. Лявона Юрэвіча; рэд. і камент. Наталлі Гардзіенкі. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 148 с. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 36).

# "КОЛЕРЫ" ПАЗІІ ПЁТРЫ МУРЗЁНКА




"Колеры" – такую назву мае новы паэтычны зборнік вядомага дзеяча беларускага замежжа ў Канадзе Пётры Мурзёнка, выдадзены ў Мінску пры спрыянні ЗБС "Бацькаўшчына". Кніга сталася вынікам паэтычнага плёну аўтара за апошнія пяць гадоў.

Пяцігадовы перыяд, з лірычным бокам якога пакліканы пазнаёміць чытача зборнік "Колеры", быў для Пётры Мурзёнка надзвычай прадуктыўным. Не зважаючы на моцную загружанасць працай у Міністэрстве аховы здароўя Канады, нягледзячы на ўдзел у справах Беларускага інстытута літаратуры і мастацтва ў Канадзе і Атаўскага аддзела Згуртавання беларусаў Канады, якія ён узначальвае, спадар Пётр знайшоў час, каб выдаць грунтоўны зборнік публіцыстыкі "Шляхі да беларускай нацыі" (2016), ілюстраваны даведнік "Чым трэба ганарыцца кожнаму беларусу" (2017), падрыхтаваць больш за дваццаць выпускаў вэб-часопісу "Культура. Нацыя" (sakavik.net) і нават запісаць аўдыяальбом "Дотык" (2014).

Зборнік "Колеры" складаецца ў асноўным з вершаў, створаных у Атаве (Канада), але асобныя раздзелы ўтрымліваюць таксама і падарожную паэзію з "іспанскага" і "дамініканскага" дзённікаў. Пётра Мурзёнак верыць, што прыгажосць у выглядзе паэзіі здольная выратаваць свет. Пасля выхаду "Колераў" кожны мае магчымасць таксама ў гэтым пераканацца.

Мурзёнак ,П.

Колеры: кніга паэзіі / Пётра Мурзёнак. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 188 с.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны

# ІРКУЦКІЯ “КРЫВІЧЫ” Ў ГАСЦЯХ У “ЛЕПЕЛЬСКАГА ЦМОКА”

З прычыны жорсткага графіку сябра Іркуцкага моладзевага клубу “Крывічы” Алег Рудакоў меў літаральна гадзіну вольнага часу, але ўсё ж скарыстаў яе на тое, каб завітаць на сядзібу “Бацькаўшчыны” і апавесці пра ўдалы выступ “Крывічоў” на фестывалі “У госці да Лепельскага Цмока-2018”, пра свае этнаграфічныя вандроўкі па Іркуцкай вобласці, пра “дырнікаў” і чарадзейныя ўласцівасці рабіны, пра асаблівасці іркуцкага “Лысага”, а таксама падзяліўся планамі па выданні кружэлак.




Мы вельмі ўдзячныя арганізатарам фэсту “У госці да Лепельскага цмока-2018” за тое, што запрасілі нас.

На жаль, праз тое, што квіткі былі за свой кошт, з нашага гурта “Крывічы”, які налічвае дванаццаць чалавек, даехаць змаглі толькі трое. Але ўсё ж такі мы прывезлі спецыяльную праграму, падрыхтаваную адмыслова для Беларусі. Гэта аўтэнтычныя беларускія песні, запісаныя падчас нашых этнаграфічных вандровак па вёсках, утвораных беларускімі перасяленцамі падчас сталыпінскіх рэформаў. Згодна са звесткамі Іркуцкага архіву за прамежак часу з 1902 па 1912 гады беларусаў у Прыбайкаллі паболела на 300 000. У адным толькі Тулунскім раёне са 157 “сталыпінскіх” вёсак 124 вёскі былі створаны якраз беларусамі. Гэтыя вёскі там дагэтуль існуюць, і дагэтуль там кампактна пражываюць беларусы. Старыя людзі распавядалі, што жыхары такіх вёсак нават жаніцца ці выходзіць замуж стараліся за сваіх. Напрыклад, з адной вёскі Эхірыт-Булагацкага раёна ездзілі сватацца за 130 кіламетраў у вёску Тургенеўка Баяндаеўскага раёна. Дагэтуль у вёсках Іркуцкай вобласці жывуць, напрыклад, Макарэвічы ды людзі з іншымі беларускімі прозвішчамі... А самае галоўнае, што там жывуць дзядулі і бабулі, якія, хаця і нарадзіліся ўжо ў Сібіры, памятаюць аповеды перасяленцаў і падтрымліваюць беларускія побытавыя традыцыі.

Вось як, напрыклад, у вёсцы Чэрчэт, якой, дарэчы, 18 жніўня споўнілася 115 гадоў ад утварэння. Яны на кожны юбілей запрашаюць “Крывічоў” на свята, але сёлета я быў вымушаны прасіць у іх прабачэння, паабяцаўшы, што Беларусь пра іх даведаецца, бо на Лепельскім фестывалі я са сцэны паведамлю ўсім пра гэтую важную дату. Так і зрабіў. Гэтая вёска адметная тым, што там амаль на кожнай хаце – на брамах, на сценах або нават на плытах – ёсць васьміканцовая беларуская зорачка, “валошка”. Я думаў, што гэта такое ўпрыгожанне, але мне патлумачылі: гэта абярэгі ад навальніцы, ад Перуна, якога там, дарэчы, усе ведаюць. Па наяўнасці такой зоркі на хаце адразу бачна, хто ў вёсцы карэнны жыхар, а хто прыезджы. Пра выкарыстанне такой зоркі як абярэгу ў Беларусі я не чуў.

Або яшчэ адна таямнічая традыцыя. У Зімінскім раёне, у вёсцы Філіпаўск адна жанчына ўзгадвала пра суседнюю вёску, якая знікла ў 60-я гады, калі пачалі ствараць саўгасы і аб’ядноўваць паселішчы ў вялікія сёлы. Беларусаў, якія там жылі, звалі “дырнікамі”. Справа ў тым, што яны “маліліся Сонцу”: рабілі ў кожнай хаце дзірку ва ўсходняй сцяне, якую закрывалі адмысловым коркам, і штораніцы пільнавалі, калі пачынае ўставаць сонца, каб на нейкі час гэты корак дастаць і даць першым промням “асвяціць” жытло. Я спрабую знайсці ў Іркуцкай вобласці пра гэты абрад нейкую інфармацыю, але пакуль што безвынікова.

У беларускіх вёсках Прыбайкалля перад хатай робіцца палісаднічак, які не выкарыстоўваюць як грады, а садзяць там кветкі і – абавязкова – рабіну. Бо лічыцца, што гэтае дрэва “аберагае”, адцягвае кепскую энергію, спрыяе сямейнаму дабрабыту, суцішвае сваркі. Больш за тое, падобна на тое, што ў Іркуцк рабіну якраз беларускія перасяленцы з сабой і прывезлі. Рабіна, у выніку, добра адаптавалася і разраслася па ўсіх навакольных лясах... Можна казаць, што гэта цяпер сімвал беларускай Сібіры, накшталт бярозак для рускіх.

Расказваць можна бясконца. У нас ёсць ідэя выдаваць альманах, друкаваць у ім розныя гісторыі, аўтэнтычныя легенды і казкі, нават вершаваныя, якіх нам таксама шмат распавядаюць у беларускіх вёсках. Таксама хочам выдаць трэцюю кружэлку – не можам жа мы ўвесь час спяваць тыя самыя песні, трэба пашыраць рэпертуар, а старыя песні архіваваць, тым больш што матэрыялу ўжо ёсць і на чацвертую. Але ўсё традыцыйна ўпіраецца ў грошы.

Дзве песні з тых, што “Крывічы” прадставілі на фестывалі, мы запісалі ў Дакучыц Ніны Кузьмінічны з вёскі Тургенеўка – іх спяваў яе бацька 1914 года нараджэння і бабуля, якая нарадзілася ў вёсцы Малеч Пружанскага ўезду Гродзенскай губерні. Унікальную песню “Была ў мужа кабылка й кароўка” і яшчэ адну прывезлі ад Лісуткі Парфянёнак, чые дзяды былі перасяленцамі з Віцебскай губерні. І яшчэ дзве песні “з Гомельшчыны” – ад Дусі Харчанка.

Пад Іркуцкам амаль што ў кожнай вёсцы ёсць дамы культуры, а пры іх – нейкія ансамблі. Калі гэта беларускія вёскі, то мы стараемся іх натхняць на беларускія спевы, хоць яны ўсё адно стараюцца выконваць больш сучасныя, з аранжыроўкамі, як яны самі гавораць – “больш весялейшыя”. Старажытныя, архаічныя песні яны, на жаль, часта лічаць нуднымі і не дужа цікавымі.

Зрэшты, з этнаграфічных вандровак мы вяртаемся не толькі з песнямі, але і з танцамі. Іх мы таксама прывезлі ў Лепель. На фестывалі нам далі магчымасць выступіць аж два разы. Мы сваім выступам апоўдні на галоўнай сцэне адкрывалі фестываль, за паўгадзіны выканалі шэсць песень. А яшчэ праз нейкі час выступалі на танцавальнай пляцоўцы, куды агулам да нас прыйшло блізу 150 чалавек. На просьбу гледачоў мы, вядома, праспявалі яшчэ колькі песень, але ў асноўным заводзілі карагоды, якім навучыліся ў сваіх этнаграфічных экспедыцыях. Напрыклад, вельмі простыя, але старажытныя “Запляціся пляцень”, крыху адрозны ад тутэйшага варыянт “Лысага”, рэдкія танцы “Падгорная”, “Чацвёра”, “Шасцёра” і некаторыя іншыя. У беларускіх сбірскіх вёсках іх памятаюць, танчаць, а ў Беларусі пра іх ведаюць мала. Я думаю, гэта звязана з тым, што перасяленцы жылі кампактна і кансерватыўна, а праз Беларусь за гэты час пракаціліся дзве сусветныя вайны і урбанізацыя...

Я вельмі ўдзячны ўсім, хто спецыяльна прыехаў на фестываль, каб падтрымаць нас. Да нас падыходзілі людзі, якія прыехалі з Воршы, з Мінску, з Полацка, з Магілёва, і казалі, што ехалі сюды адмыслова на нас, каб нас падтрымаць, паглядзець як мы танчым і паслухаць, як мы спяваем.

**Гутарыў Сяргей Кандрацёнка, прэс-сакратар ЗБС “Бацькаўшчына”**

**гісторыя**

# “ДАРУЙ, ЯНЕ!”

Успаміны беларуса, які ў складзе савецкай арміі акупаваў Чэхаславаччыну



Старшыня Севастопальскага таварыства беларусаў Валер Барташ у войску, Чэхаславаччына, 1968 год

24 жніўня 1968 года мотастралковы полк, у якім я служыў, перайшоў дзяржаўную мяжу ЧССР з боку Вугоршчыны. Да найменшых падрабязнасцяў засталося ў памяці ўсё, што папярэднічала гэтаму. Невялікая паляна, акружаная хмызьняком. Шыхтаванне асабістага складу паротна. У страі стаялі салдаты розных нацыянальнасцяў, пераважна каўказцы, сярэднеазіяты. Нездарма нашу мотастралковую дывізію называлі “дзікай”.

Камандзір зачытаў загад міністра абароны СССР, у якім гаварылася, што ў выпадку нападу дазвалялася адкрываць агонь на паражэнне. Было ціха. Думка ўва ўсіх была адна – гэта сур’ёзна.

Наша рота забяспечвала рэгуляванне руху калоны. Рэгулявальнікі са сваімі жэзламі стаялі адкрытыя і неабароненыя, і гэта ўзмацняла пачуцьцё небяспекі. “Тэрмінова захварэў” салдат-грузін. Моўчкі, без звычайнага галасу, атрымалі патроны і зарадзілі магазіны аўтаматаў. Каманда: “Па машынах!”. Зараўлі рухавікі бронетранспарцёраў.

А 19-й гадзіне полк перайшоў чэхаславацкую мяжу. Бясконцай грукатлівай стальной стужкай, разбіваючы дарожнае пакрыццё, рушылі танкі, самаходныя артылерыйскія ўстаноўкі – 100-міліметровыя САУ з латамі на бране, якія засталіся з вайны, зенітныя комплексы, палявыя кухні, аўтамашыны, гружаныя боепрыпасамі, аўтацыстэрны ды іншае вайсковае майно. У гэты дзень пайшоў чацвёрты год маёй службы ў арміі – жорсткая расплата за юнацкую легкадумнасць. Наперадзе былі маршы, блакаванне частак чэхаславацкай арміі. Насельніцтва выказвала незадаволенасць, але збройнага супрацьстаяння не было, і гэта чамусці выклікала ў мяне раздражненне.

Дывізія засталася ў Чэхаславаччыне, а мы, “дэмбелі”, у халодных чэхаславацкіх вагонах рушылі дадому. Памятаецца фраза сяржанта-масквіча: “Шкада, па жывых цэлях ня пастралялі”.

Памежная станцыя Чоп, прыгажун Львоў – свой, але не родны. 30 снежня, ранняя раніца, Севастопаль, вітаю, мора! Марскі патруль чатырма парамі вачэй упёрся ў мае салдацкія пагоны. Са словамі “Прывітанне, салабоны!” аддаў гонар. Фізіяноміі матросаў выцягнуліся: якое хамства, ды яшчэ ад салдата. Але мічман – старшы патруля аказаўся кемлівым хлопцам і паблажліва махнуў рукой. Вось і дом. Якой радасцю засвяціўся твар маці, стрыманыя бацькавы абдымкі – сын вярнуўся!

Прайшло 45 гадоў. Часам я ўключаю інтэрнэт і гляджу хроніку “Чэхаславаччына-1968”. Гляджу з сумам, як чалавек узгадвае маладыя гады, калі, здавалася, усё жыццё наперадзе. На экране бачу салдат у гімнасцёрках, натоўпы людзей, мільгаюць твары палітыкаў... Я быў там, дзякую лёсу, што мяне не атруцілі вадой ці півам, не забілі на варце і, самае галоўнае, што не давялося мне страляць па жывых цэлях на паражэнне. Я забыўся імёны камандзіраў і салдат, я не персаніфікую на сябе віну за акупацыю Чэхаславаччыны, усведамляючы, што выконваў абавязак салдата. Але ёсць імя чалавека, якое не пакідае мяне, і я адчуваю, што вінаваты ў ягонай гібелі. Ян Палах, амаль мой аднагодак. У думках я датыкаюся рукою да каменя на Вацлаўскай плошчы ў Празе, дзе ён палыхнуў паходняю Свабоды, і кажу: “Прабач, Яне!”

**Валер Барташ,**
**старшыня Севастопальскага таварыства беларусаў імя Максіма Багдановіча “Пагоня”, 2013**

**“Радыё Свабода”**

**кніга**

# ВЫЙШЛА Ў СВЕТ МАНАГРАФІЯ ПРАФЕСАРА ЗІНАІДЫ ГІМПЕЛЕВІЧ “THE PORTRAYAL OF JEWS IN MODERN BIELARUSIAN LITERATURE”

Выйшла ў свет манаграфія прафесара Зінаіды Гімпелевіч “The Portrayal of Jews in Modern Bielarusian Literature”.

Адным з характэрных адрозненняў беларускіх аўтараў у параўнанні з іншымі пісьменнікамі ў славянскіх літаратурах з’яўляецца выяўленне габрэйскіх персанажаў як мясцовых жыхароў. Габрэі былі самай вялікай нацыянальнай меншасцю, а ідыш быў адной з дзяржаўных моў Беларусі з 1919 па 1938 год.

У манаграфіі праліваецца святло на гэтую важную частку славянскіх і габрэйскіх даследаванняў. Зінаіда Гімпелевіч праз тэкставы і параўнальны аналіз урыўкаў твораў паэтаў, раманістаў і драматургаў, большасць з якіх раней не перакладалася на ангельскую мову, даводзіць, што творы беларускіх пісьменнікаў дэманструюць большую сімпатыю да габрэяў, чым пра гэта прынята думаць. Кожны пісьменнік разглядаецца з улікам сацыяльна-палітычнай сітуацыі краіны ў перыяд, калі яны жылі і пісалі.

“The Portrayal of Jews in Modern Bielarusian Literature” дае разуменне таго, як розныя беларускія, габрэйскія і іншыя культуры рэгіёну ўзаемадзейнічалі на працягу многіх стагоддзяў.

**Паводле McGill-Queen’s University Press**




## Беларускі каляндар памятных дат на верасень 2018 года

1 верасня – 165 гадоў таму, у 1853-м, нарадзіўся Міхал Федароўскі, этнограф.

1 верасня – 90 гадоў таму, у 1928-м, нарадзіўся Расціслаў Лапіцкі, арганізатар антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху на Мядзельшчыне і Смаргоншчыне ў 1948–1950 гг.

1 верасня – 80 гадоў таму, у 1938-м, расстраляны Андрэй Бараноўскі, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху.

2 верасня – 70 гадоў таму, у 1948-м, у Лювене (Бельгія) утворана Згуртаванне Беларускіх Ветэранаў.

2 верасня – 20 гадоў таму, у 1998-м, памёр Мікола Гайдук, пісьменнік.

3 верасня – 40 гадоў таму, у 1978-м, памёр Пётр Татарыновіч, святар, літаратар, дзеяч эміграцыі ў Італіі і Ватыкане.

4 верасня – 125 гадоў таму, у 1893-м, нарадзіўся Юзюк Фарботка, паэт, заолаг.

6 верасня – 115 гадоў таму, у 1903-м, нарадзіўся Мікалай Дварэцкі, грамадскі дзеяч, паэт, які потым жыў у Польшчы.

8 верасня – 145 гадоў таму, у 1873-м, памёр Яўстах Тышкевіч, адзін з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі.

10 верасня – 125 гадоў таму, у 1893-м, нарадзіўся Аляксандр Ляўданскі, археолаг.

11 верасня – 150 гадоў таму, у 1868-м, памёр Рамуальд Зянькевіч, этнограф.

12 верасня – 85 гадоў таму, у 1933-м, памёр Антон Камінскі, графік і жывапісец.

14 верасня – 95 гадоў таму, у 1923-м, нарадзіўся Янка Баран, грамадскі дзеяч эміграцыі ў Канадзе.

15 верасня – 370 гадоў таму, у 1648-м, забіты Афанасій Філіповіч, палітычна-царкоўны дзеяч, пісьменнік-публіцыст.

15 верасня – 105 гадоў таму, у 1913-м, нарадзіўся Рыгор Зыбайла, вайскова-палітычны дзеяч.

15 верасня – 100 гадоў таму, у 1918-м, нарадзіўся Уладзіслаў Салавей, рэлігійны дзеяч замежжа.

16 верасня – 80 гадоў таму, у 1938-м, расстраляны Іосіф Мацюкевіч, мовазнавец.

17 верасня – 120 гадоў таму, у 1898-м, нарадзіўся Павел Крынчык, грамадска-культурны дзеяч.

18 верасня – 20 гадоў таму, у 1998-м, памёр Віктар Шымук, пісьменнік.

19 верасня – 80 гадоў таму, у 1938-м, памёр Браніслаў Туронак, культурна-грамадскі дзеяч.

20 верасня – 115 гадоў таму, у 1903-м, нарадзілася Наталля Арсеннева, паэтэса, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

21 верасня – 100 гадоў таму, у 1918-м, нарадзіўся Фёдар Янкоўскі, мовазнавец.

23 верасня – 185 гадоў таму, у 1833-м, нарадзіўся Фелікс Віславух, палявы камандзір паўстання 1863–1864 гг.

24 верасня – 125 гадоў таму, у 1893-м, нарадзілася Паўліна Мядзёлка, актрыса.

25 верасня – 105 гадоў таму, у 1913-м, нарадзіўся Сяргей Грахоўскі, пісьменнік.

28 верасня – 190 гадоў таму, у 1828-м, нарадзіўся Вацлаў Пшыбыльскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг..

28 верасня – 65 гадоў таму, у 1953-м, загінуў Базыль Камароўскі, пісьменнік, грамадскі дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Канадзе.

**Беларусы ў свеце**
№ 8 (195), жнівень 2018

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27